АДНА ЗЯМЛЯ

Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

4 – 10 лютага 2000 года
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
Цана ў розніцу 50 руб. (50 000 руб.)
№ 5 (250)

**НАДВОР'Е НА ВЫХАДНЫЯ**

| | Субота, 5 лютага | | Нядзеля, 6 лютага | |
|---|---|---|---|---|
| | Мінск | Вільня | Мінск | Вільня |
| Уначы | +1° – -9°C | 0° – -3°C | +1° – -5°C | 0° – -2°C |
| Удзень | +3° – -3°C | +2° – +5°C | +3° – -1°C | +2° – +4°C |

МАЛАДЗЕЧНА

## Даяркі ў Выверах рызыкуюць жыццём

У мінулую пятніцу раніцой у вёсцы Выверы абваліўся дах (некалькі жалезабетонных перакрыццяў) і цагляная перагародка малочна–таварнай фермы. 3–пад завалаў вызвалілі дзвюх даярак – адну з цяжкімі траўмамі павезлі ў Мінск, другую накіравалі ў аддзяленне траўматалогіі Маладзечанскай гарбальніцы. Эвакуіраваныя былі 30 кароў.

Ферму плошчай 2,5 тысячы метраў пабудавалі 25 год таму. Ад часу яна мела сур'ёзныя дэфекты, а напрыканцы мінулага тыдня надарыліся яшчэ і моцныя перапады тэмпературы: ад -27°С ноччу да +2°С удзень. Спецыялісты лічаць, што жалезабетонныя слупы перакрыцця не вытрымалі менавіта гэтага. У выніку 160 кв. м даху рабочага тамбура ўпала на даярак, якія толькі прыйшлі на работу.

Для дэталёвага высвятлення прычын здарэння ўзбуджаная крымінальная справа.

*Аддзел інфармацыі.*

МАЛАДЗЕЧНА

## Літаратары з'ехаліся на свае юбілеі

У сераду беларускія пісьменнікі прыехалі ў музей гісторыі і беларускай літаратуры, што ў Плябані.

Аб'яднанне дзяржаўных літмузеяў краіны менавіта на Маладзечаншчыне вырашыла сабраць пісьменнікаў і паэтаў з усёй Беларусі. У першую чаргу, тых, якія ў 2000 годзе будуць адзначаць (ці ўжо адзначалі) свае юбілеі. І творчыя, і па ўзросце.

Падрабязнасці з Плябані чытайце ў наступных нумарах "РГ".

*Аддзел інфармацыі.*

МЯДЗЕЛ

## На памяць – кнігу «Памяць»

Па наручным гадзінніку і кнізе "Памяць" – своеасаблівай энцыклапедыі раёна – атрымаў кожны, хто прыйшоў у выканкам на святкаванне 60–годдзя Мядзельшчыны.

Запрошаных было шмат, пераважна тых, хто аддаў раёну свае веды, годы, здароўе. Былі і знакамітыя землякі. Прыехала, напрыклад, на ўрачыстасць вядомая артыстка **Марыя Захарэвіч**.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВАЛОЖЫН

## Банк плануе сям'ю

Напрыканцы мінулага года райвыканкам прыняў рашэнне аб аказанні медыцынскім установам раёна дапамогі (у рамонце, паляпшэнні матэрыяльнай базы) з боку прадпрыемстваў і арганізацый. За кожнай медустановай замацавалі шэфаў.

Днямі мясцовае аддзяленне Белаграпрамбанка перадало 500 тысяч дэнамінаваных рублёў акушэрска–гінекалагічнай службе раённай бальніцы. За гэтыя грошы медыкі набылі тэлевізар і відэаплеер для дэманстрацыі навукова–прафілактычных фільмаў наведвальнікам жаночай кансультацыі, у прыватнасці, кабінета планавання сям'і.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

## Гандаль на выездзе з горада

З 1 лютага на цэнтральнай плошчы імя Леніна не ўбачыць гандлёвых палатак. Рашэннем райвыканкома гандаль на плошчы закрыты. Прыватным прадпрымальнікам прапанавана пераехаць на калгасны рынак, што на выездзе з горада на Смаргонь.

Гандляры звярнуліся ў райвыканкам з прапановай кампраміснага рашэння: атрымаць дазвол на гандаль на пляцоўцы ў межах парку, ля будынка гархарчпрамгандлю. Улады на гэта не згадзіліся, і супрацьстаянне гандляроў і чыноўнікаў працягваецца.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

МІНСК

## Канцэпцыя Нацыянальнага ўніверсітэта

Беларускі нацыянальны ўніверсітэт павінен стаць класічным еўрапейскім універсітэтам – узорам для рэформы ўсёй нацыянальнай вышэйшай адукацыі і базай для падрыхтоўкі кадраў нацыянальнай эліты. Плануецца адкрыць прыродазнаўчы (з біялагічным і геаграфа-геалагічным аддзяленнем), гісторыка-лінгвістычны, юрыдычны, эканамічны, літаратурны і, магчыма, фізіка-матэматычны факультэты. Каля трох тысяч студэнтаў будуць займацца ў вучэбных групах па 10-15 чалавек.

У новым універсітэце мяркуецца ўвесці еўрапейскую сістэму педагагічнай нагрузкі, якая ўдвая меншая за цяпер існуючую ў Беларусі. У лік абавязковых дысцыплін увойдуць латынь, дзве замежныя мовы і дэмаграфія (Беларусь сёння займае адно з першых у свеце месцаў па тэмпах вымірання насельніцтва).

Старшыня Таварыства беларускай мовы **Алег Трусаў** гаворыць, што дапамогу ў арганізацыі і дзейнасці Беларускага нацыянальнага ўніверсітэта гатовыя аказаць выдатнейшыя ўніверсітэты свету.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

ТРАНСПАРТ



ФОТА IREX/PROMEDIA.

## Па выхадных не паездзіш

З 28 студзеня тарыфы на праезд у прыгарадных і міжгародніх аўтобусах значна выраслі. Цяпер, каб праехаць 1 км у прыгарадным аўтобусе, трэба выкласці 3,5 рублі ў цвёрдым аўтобусе (было 2,3) і 3,9 у мяккім (было 2,6).

На міжгарадзе трэба заплаціць 5 рублёў за 1 км у цвёрдым (было 3,6) і 5,7 у мяккім аўтобусе (было 4,1).

Цікава, што тарыф гэты сапраўдны толькі ў буднія дні. Мінскі аблвыканкам, да прыкладу, вырашыў у выходныя дні ўзняць гэтыя цэны яшчэ на 50%.

*Аддзел інфармацыі.*

## Шаноўныя сябры!

У нядзелю, **6 лютага**, у выставачнай зале Вілейскага гісторыка–краязнаўчага музея (пл. Свабоды) адбудзецца **спектакль тэатра "Ялінка"** пра Нарачанскім доме культуры (Вілейскі раён) **"У ноч на Ражство"**. Пачатак а 15 гадзіне. Запрашаюцца ўсе жадаючыя.

Сардэчна запрашаем **10 лютага** ў цэнтральную гарадскую бібліятэку імя Багдановіча г. Маладзечна на **краязнаўчую канферэнцыю "Ён свету адкрыў зямлю сваю"**, прысвечаную памяці доктара гістарычных навук Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага. Пачатак а 10 гадзіне.

ТРАДЫЦЫІ

# Дзень святога Валянціна

Гэтае свята не мае пад сабой глыбокай рэлігійнай асновы, нягледзячы на тое, што каталіцкая царква ўшаноўвае памяць 14 Валянцінаў і 3 Валянцін. Вытокі яго можна знайсці ў шматлікіх легендах.

Па адной з іх, у паганскія часы існавала свята ў гонар бога зямлі і ўрадлівасці Дыяніса. Пасля рытуальных скокаў і гульняў яго ўдзельнікі выцягвалі з кошыка запіскі з імем дзяўчыны. На павер'і, яна магла стаць жонкай у наступным годзе.

У старажытным Рыме на 15 лютага прыходзілася свята Луперкаліі. Яго абрады былі заклікання абараніць насельніцтва ад ваўкоў. А напярэдадні Луперкалій ладзілася свята ўрадлівасці, падчас якога заахвочвалася легкадумства ў адносінах з супрацьлеглым полам.

Магчыма, свята звязана з разуменнем слова "valentine", як скажонага старафранцузскага "галантны". А элемент гульні і нечаканасці падчас "дня галантных учынкаў" надаваў атмасферы свята шарм і пікантнасць, спрыяў лірычнаму выказванню пачуццяў і паднашэнню падарункаў. Потым, у VII-VIII стагоддзях ён атрымаў апякунства святога Валянціна і ператварыўся ў свята закаханых.

У Сярэднявеччы таксама лічылася, што 14 лютага птушкі выбіраюць сабе пару на наступны год. Пасля гэтая думка стала вытокам для свята Валянціна, апекуна закаханых.

Але найбольш распаўсюджаная думка, што традыцыі для закаханых звязаны з легендай пра хрысціянскага святога Валянціна. Епіскап Церні вельмі прыхільна ставіўся да закаханых і нават насуперак загаду імператара Юлія Клаўдзія II тайна вянчаў легіянераў. За гэтыя "антыдзяржаўныя" дзеянні яго кінулі ў турму, дзе епіскап пакахаў сляпую дачку свайго турэмшчыка. Імператар прапанаваў Валянціну жыццё за абяцанне нікога больш не вянчаць. Епіскап Церні адмовіўся, за што і быў пакараны 14 лютага 270 года н. э. Аднак перад смерцю ён паспеў напісаць ліст сваёй каханай і падпісаўся "твой Валянцін". Выконваючы апошнюю волю Валянціна, кат перадаў запіску дзяўчыне, якая, дзякуючы гэтаму лісту, пачала бачыць. Прах епіскапа Церні быў пахаваны ў царкве Святога Праксідзія на ў Рыме, а яго вароты пачалі называць "Брамай Валянціна".

Ёсць таксама меркаванне, што Валянцінаў было двое і ў Рыме пахаваны не епіскап Церні, а рымскі пакутнік Валянцін. Але як бы тое ні было, у 496 г. папа Гелоцій І кананізаваў Валянціна, а яго перадсмяротная запіска ператварылася ў "валянцінку" – сімвал вечнай прыхільнасці і вернасці.

Першая "валянцінка", датаваная пачаткам XV стагоддзя, уяўляла сабой узор разьбы па дрэве. Яна мела выяву рыцара, якому дама дорыць букет кветачак. Потым "валянцінка" стала паштоўкай, упрыгожанай ажурнай вышыўкай, стужкамі, залатой мішурой. Яе распісвалі ў пастэльных танах і ўнутры малявалі сэрца ружовага колеру з залатым абадком. Цяпер такія валянцінкі можна пабачыць толькі ў музеях; звычайна яны належалі вядомым гістарычным асобам.

Серыйны выпуск "валянцінак" пачалі амерыканцы і зарабілі на гэтым вялікія грошы. Так, Эстэр Коўканд, аўтар адной з першых тыражных валянцінак, зарабіў у 1840 г. 5000 долараў – вялікія ў той час грошы для амерыканцаў.

Класічнай эмблемай для Святога Валянціна лічыцца чырвоная ружа. Згодна з антычнай легендай, яна з'явілася, дзякуючы Афрадыце, багіне кахання і прыгажосці. Спяшаючыся да Адоніса, свайго параненага каханага, яна наступіла на куст белых руж, пракалола на шыпах нагу, і яе боская кроў зрабіла ружы яркачырвонымі. А пачатак традыцыі дарыць чырвоныя ружы на 14 лютага былі пакладзены Людовікам XVI, які падарыў іх Марыі–Антуанеце.

Разам з "валянцінкай", на якой звычайна пішуцца вершы, пажаданні, прызнанні ў каханні, прынята дарыць невялікія падарункі. Гэта можа быць букет кветак ці штонебудзь іншае з прыемных дробязяў. Але пажадана, каб і яны мелі форму сэрца ці былі ў аздобленым сэрцамі пакунку. Выдатным падарункам лічацца шакаладкі, якія пачалі дарыць дамам англічане ў XVI стагоддзі. Менавіта ў гэты час яны і іспанцы прывезлі ў Еўропу з новага свету першыя партыі какава–бабоў.

Да наступлення свята застаецца яшчэ шмат часу. Але не адкладвайце на потым набыццё валянцінкі. Ці зрабіце яе самі. І не шкадуйце шчырыя словы як у свята, так і ў звычайныя дні, рабіце прыемныя сюрпрызы каханым і сябрам – атмасфера дня Святога Валянціна вельмі спрые такім "безразважнасцям".

*Вадзім ЗУБРЫЦКІ, студэнт III курса геафака БДУ.*

**Запрашаем чытачоў «РГ» дасылаць у газету «валянцінкі» сваім каханым.**

**Мы апублікуем іх у наступную пятніцу, 11 лютага, напярэдадні выхадных і Дня святога Валянціна.**



 



### ДНІ НАРАДЖЭННЯ

**9 лютага**

70 год з дня нараджэння (1930) **В. Тараса**, беларускага пісьменніка, перакладчыка.

### РЫБАКІ

## У Нарачы ёсць пудовыя шчупакі

МЯДЗЕЛ. Жыхар вёскі Нарач **Іосіф Дзяргач** вярнуўся з возера Нарач з вялікай здабычай: на стаўку патрапіў шчупак даўжынёй 120 сантыметраў і вагой 14 кілаграмаў.

Лунка, прабураная ледабурам, аказалася малой, каб рыбіна парадавала шчаслівага аматара. Давялося пазычаць у суседа пяшню і расшыраць лунку. На ўсё гэта было патрачана 40 хвілін. Лёд на Нарачы дасягае 25–30 сантыметраў.

Іосіфу Дзяргачу і летась даводзілася з лёду здабываць шчупакоў вагой 9–10 кг.

*Міхась КУПСКІ.*

### КОНКУРС

## Калі ногі растуць ад вушэй

Конкурс «Што гэта значыла б?», аб'яўлены ў №2, прынес розныя лісты. І хаця вынікі падведзеныя, прапануем увазе чытачоў яшчэ адно меркаванне – жаночае.

**Жанна Ангерчык**, якая працуе ў маладзечанскім цэнтры дзіцячай творчасці, прапанавала наступнае тлумачэнне «азадка з вушамі»:

– Гэта той выпадак, калі ногі ў жанчыны растуць, што называецца, ад вушэй.

Таксама дасціпна, ці не праўда?

*Аддзел інфармацыі.*



### ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# 1 лютага ў краіне пачалася ўсеагульная забастоўка прадпрымальнікаў

*Мяркуецца, што забастоўка прадпрымальнікаў, якія гандлююць на рэчавых рынках, будзе доўжыцца месяц. Прадпрымальнікі патрабуюць адмены падатку на дабаўленую вартасць для тых, чый тавараабарот не перавышае 3 тысяч мінімальных зарплат; «замарожвання» ставак фіксаванага падатку на леташнім узроўні; адмены 10-разовага павелічэння штрафаў за дробныя парушэнні (так, за несвоечасовае афармленне адрыўнога талона пагражае штраф ад 20 да 50 МЗП, ці ад 44 да 110 тысяч дэнамінаваных рублёў); спынення пабораў і вымагальніцтва з боку міліцыі, падатковых інспектараў, адміністрацый рынкаў і г. д.*

Яшчэ адна мэта акцыі – паказаць, наколькі залежныя ад дзейнасці прыватных прадпрымальнікаў рэспубліканскі і мясцовыя бюджэты. Лідэр забастовачнага камітэта **Валерый Леванеўскі** сцвярджае, што падаткі, паборы і штрафы з прадпрымальнікаў складаюць да 50% даходнай часткі мясцовых бюджэтаў і да 20% – рэспубліканскага.

Улады не спяшаюцца выказваць сваю рэакцыю. Магчыма, гэта звязана з тым, што яшчэ не выпрацаваная тактыка дзеянняў. Хаця Леванеўскі нават заявіў, што «калі ўлады зробяць крокі, накіраваныя супраць вас, мы прымем самыя рашучыя захады, аж да акцый грамадзянскага непадпарадкавання».

У першы дзень забастоўкі на работу не выйшлі, у асноўным, прадпрымальнікі сталіцы і абласных цэнтраў, ды і тое не ўсе. Хаця В. Леванеўскі настроены рашуча.

– З-за забастоўкі мы нясем страты, але лепш цяпер страціць 50 мільёнаў, чым потым усё, – гаворыць ён.

На яго думку, магчымыя два варыянты развіцця падзей. Першы – калі ўлада пачне рэальна ісці насустрач прадпрымальнікам, другі – улада будзе гуляць у перамовы і адначасова з дапамогай штрэйкбрэхераў выводзіць людзей на працу, каб потым абвясціць, што забастоўка правалілася. Апошні ягоны тэзіс дастаткова спрэчны: вядома, што далёка не ўсе дробныя гандляры прытрымліваюцца забастовачных настрояў. У прыватнасці, можна сцвярджаць, што калег з рэчавых рынкаў падтрымалі толькі ўладальнікі камерцыйных кіёскаў – і тое далёка не ўсіх. Гандляры парфумай, кветкамі, аўдыё- і відэатаварамі, кнігамі, садавінай выйшлі на свае рабочыя месцы. Прадоўжаць сваю работу і харчовыя рынкі, застануцца адкрытымі камерцыйныя магазіны і аптэкі. Страта выручкі за некалькі дзён і элементарная боязь у чарговы раз перамогуць "стратэгію". Спрыяе гэтаму і ўласная неарганізаванасць прадпрымальнікаў, адсутнасць каардынацыйнага цэнтра, з якім тыя самыя дзяржаўныя структуры маглі б весці перамовы дзеля вырашэння праблем.

Наогул, дзеянні прадпрымальнікаў Маладзечна, Смаргоні, Вілейкі, што гандлююць на рэчавых рынках, пакідаюць дваістае ўражанне. Нягледзячы на тое, што добра відаць бясслаўнае заканчэнне іхняй дзейнасці (намаганні ўладных структур вымагаюць гэтую выснову), асаблівай актыўнасці ў адстойванні імі сваіх правоў не назіраецца. Максімум – гэта гучныя страсенні паветра на кухні ці ў кампаніях аднадумцаў.

*Аддзел інфармацыі.*

### КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ, ХРОНІКА

## Навагодні суіцыд

ВІЛЕЙКА. На мінулыя выхадныя хавалі 20–гадовую дзяўчыну. Яшчэ на навагоднія святы яна выліла на сябе ацэтон і падпаліла. З аддзялення рэанімацыі Вілейкі яе адвезлі ў апёкавы рэспубліканскі цэнтр, але, на жаль, медыкі не змаглі выратаваць маладое жыццё.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

## Спірт з лесу

АСТРАВЕЦ. Амаль 880 літровых бутэлек са спіртам выявілі пагранічнікі ў "УАЗе", які знаходзіўся ў лесе, паблізу ад беларуска–літоўскай мяжы.

Аўтамабіль па дакументах лічыцца за мясцовым аўтасервісам, але там заявілі, што ў той дзень іхні транспарт укралі.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

## Дапамажыце адшукаць

МАЛАДЗЕЧНА. ГРАУС адшуквае Палянскага Аляксея Уладзіміравіча, 1965 года нараджэння, ураджэнца і жыхара г. Маладзечна, вул. Тургенева–28, які 17 снежня 1999 года пайшоў з дома і да цяперашняга часу яго месцазнаходжанне невядомае. Палянскі А. В. з'яўляецца інвалідам 1–й групы з дзяцінства. Без пэўнай мэты можа раз'язджаць як на гарадскім, так і на прыгарадным транспарце.



Прыметы: на выгляд 35 год, рост 175–180 см, хударлявага целаскладу, твар авальны, бледны, валасы прамыя, цёмна–русыя, ёсць лобныя залысіны, вочы шэрыя, глыбока пасаджаныя, носіць вусы.

Быў апрануты: чорнае асенняе паліто, чорная шапка са штучнага футра, пінжак у дробную клетку чорна–белага колеру, чорныя чаравікі.

Асаблівыя прыметы: прыжмурвае абодва вокі, мова неразборлівая.

Просім грамадзян, якім што-небудзь вядома пра месца знаходжання Палянскага, патэлефанаваць у міліцыю г. Маладзечна 76155, 71446 або 02.

### БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

## Курсы валют НБ РБ

| | 27 студзеня | 3 лютага |
|---|---|---|
| Долар | 353,00 руб. | 366,00 руб. |
| Марка Герм. | 180,82 руб. | 181,93 руб. |
| Літ | 88,22 руб. | 91,47 руб. |
| Рас. руб. | 12,36 руб. | 12,78 руб. |
| Злоты | 85,62 руб. | 86,00 руб. |
| ЕЎРА | 353,65 руб. | 355,83 руб. |

### «Вулічныя» курсы ў Маладзечне

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 880 – 920 руб. | 880 – 900 руб. |

## МАЛАДЗЕЧНА. Цэны ў сераду на рынку

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (руб.) 26.01 | 02.02 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 980 | 980 |
| Кілбаса с/вэндж. | 1 кг | 3300 | 3600 |
| Сасіскі | 1 кг | 990 | – |
| Селядзец салёны | 1 кг | 690 | 680 |
| Рыс | 1 кг | 400 | 380 |
| Грэчка | 1 кг | 550 | – |
| Цукар | 1 кг | 258 | 258 |
| Алей | 1 л | 680 | 700 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 365 | 405 |
| Маянэз | 250 г | 160 | 160 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 320 | – |
| Соус там. «Мінскі» | 0,5 л | 220 | 220 |
| Лімоны | 1 кг | 980 | 920 |
| Апельсіны | 1 кг | 625 | 625 |
| Цыбуля рэпчатая | 1 кг | 180 | 190 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 700 | 500 |
| Масла | 1 кг | 1200 | 1200 |
| Тварог | 1 кг | 600 | 500 |
| Малако | 1,5 л | 250 | 200 |
| Бульба | вял.вядро | 700 | 750 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 500 | 450 |
| Яблыкі | 1 кг | — | 400 |
| Капуста | 1 кг | 100 | 180 |
| Морква | 1 кг | 300 | 280 |

### ДАВЕДКА «РЭГІЯНАЛЬНАЙ ГАЗЕТЫ»

***Апошнім часам адбыліся змены ў раскладах руху транспарта. Удакладненыя расклады прапануем вашай увазе. У наступных нумарах «РГ» змесціць расклад руху аўтобусаў па аўтавакзале Маладзечна.***

## Расклад руху цягнікоў далёкага накіравання

### па ст. Маладзечна (на 4. 02. 2000 года)

| № цягніка | Кірунак | Адпр. з пач.ст. | Па ст. Маладзечна прыб. | стаянка | адпр. | Прыб. на кан.ст. | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | Масква–Каўнас | 17.17 | 4.00 | 4 | 4.04 | 9.08 | штодз. |
| 6 | Каўнас–Масква | 14.24 | 20.54 | 4 | 20.58 | 9.48 | штодз. |
| 29 | Масква–Калінінград | 14.04 | 0.48 | 5 | 0.53 | 10.50 | штодз. |
| 30 | Калінінград–Масква | 10.25 | 20.10 | 4 | 20.14 | 9.27 | штодз. |
| 57 | С.-Пецярбург–Варшава | 11.45 | 1.14 | 17 | 1.31 | 12.54 | па 1, 3, 5 |
| 58 | Варшава–С.-Пецярбург | 0.20 | 15.57 | 18 | 16.15 | 8.43 | па 2, 4, 6 |
| 77 | Масква–Гродна | 16.44 | 3.29 | 7 | 3.36 | 9.08 | штодз. |
| 78 | Гродна–Масква | 15.50 | 21.34 | 9 | 21.43 | 10.55 | штодз. |
| 149 | Масква–Калінінград | 19.14 | 6.27 | 7 | 6.34 | 16.47 | цотн. |
| 150 | Калінінград–Масква | 16.10 | 2.13 | 5 | 2.18 | 16.24 | няцот. |
| 200 | Вільня–Мінск | 6.54 | 10.39 | 3 | 10.42 | 12.18 | па 3, 5, 6, 7 |
| 201 | Мінск–Вільня | 17.58 | 19.21 | 6 | 19.27 | 22.35 | па 3, 5, 6, 7 |
| 203 | Мінск–Вільня | 6.26 | 7.45 | 5 | 7.50 | 10.53 | па 3, 5, 6, 7 |
| 204 | Вільня–Мінск | 15.46 | 19.35 | 7 | 19.42 | 21.09 | па 3, 5, 6, 7 |
| 211 | Харкаў–Калінінград | 23.58 | 21.45 | 5 | 21.50 | 8.18 | няцот. |
| 212 | Калінінград–Харкаў | 14.54 | 1.23 | 4 | 1.27 | 22.37 | няцот. |
| 281 | Унеча–Гродна | 13.00 | 0.33 | 12 | 0.45 | 7.11 | няцот. |
| 282 | Гродна–Унеча | 6.42 | 22.15 | 4 | 22.19 | 11.56 | няцот. |
| 285 | Гомель–Калінінград | 16.38 | 23.38 | 7 | 23.45 | 9.48 | цотн. |
| 286 | Калінінград–Гомель | 18.07 | 4.07 | 5 | 4.12 | 11.20 | цотн. |
| 287 | Гомель–Рыга | 18.22 | 0.22 | 28 | 0.50 | 12.45 | цотн. |
| 288 | Рыга–Гомель | 18.35 | 5.31 | 27 | 5.58 | 13.22 | няцот. |
| 675 | Мінск–Полацк | 17.08 | 18.33 | 35 | 19.08 | 0.09 | штодз. |
| 676 | Полацк–Мінск | 1.30 | 6.19 | 26 | 6.45 | 8.34 | штодз. |
| 683 | Віцебск–Гродна | 18.00 | 0.33 | 12 | 0.45 | 7.11 | цотн. |
| 684 | Гродна–Віцебск | 16.42 | 22.15 | 4 | 22.19 | 4.55 | цотн. |
| **Новыя цягнікі** | | | | | | | |
| 141 | Мінск–Гродна | 16.26 | 17.34 | 3 | 17.37 | 21.44 | па 5, 6, 7 |
| 141 | Мінск–Ліда | 16.28 | 17.34 | 3 | 17.37 | 19.30 | па 1 |
| 142 | Гродна–Мінск | 6.24 | 10.26 | 3 | 10.29 | 11.30 | па 1, 5, 6, 7 |

Цягнікі Чэлябінск–Калінінград і Калінінград–Чэлябінск адмененыя.

## Змяненні ў раскладзе руху электрычак

**З 1 лютага ў мэтах эканоміі электраэнергіі на зімні перыяд адмененыя электрацягнікі: адпраўленнем з Маладзечна ў 8–59** па рабочых днях і нядзелях (будзе ісці па суботах), у **11–41** па суботах, у **21–05** штодзённа.

Таксама адмененыя электрацягнікі **прыбыццём ў Маладзечна ў 8–19** па рабочых днях і нядзелях (таксама будзе ісці толькі па суботах), у **11–20** па суботах і ў **21–00** штодзённа.

Даведкі па тэл. у Маладзечне 005, 42423.

# Спорт

*Рэйтынг–ліст*

## Спецыяліст па падрыхтоўцы чэмпіёнаў

МАЛАДЗЕЧНА. 4 выхаванцы заслужанага трэнера Беларусі **Георгія Шэлега** трапілі ў дзесятку лепшых спартсменаў–інвалідаў краіны. Яе ўпершыню склаў і абнародаваў выканком Паралімпійскага камітэта.

Лаўрэатамі сталі **І. Фартунаў, В. Шулякоўская, В. Жукоўскі і Р. Сівіцкі**. Сам спецыяліст па падрыхтоўцы чэмпіёнаў у скачковых дысцыплінах названы другім сярод лепшых трэнераў Беларусі.

*Аддзел інфармацыі.*

### Анонс

**04-06.02 Фінальны турнір Кубка Мінскай вобласці па міні-футболе**

Удзельнічаюць 6 каманд: ЗЛМК (Маладзечна), РАМАС (Маладзечанскі раён), "Аўтапарк" (Барысаў), Барысаўскі раён, Слуцк, Мар'іна Горка. Кругавая сістэма.

Маладзечна (зала ЗЛМК). Пятніца (14.00-20.00), субота (10.00-16.00), нядзеля (9.00-12.00)

*Міні-футбол*

## Старыя сябры-сапернікі

МАЛАДЗЕЧНА. Зала ЗЛМК у мінулыя выхадныя прымала ўдзельнікаў занальнага турніру абласнога Кубка па міні-футболе. Каманды выступалі ў дзвюх падгрупах.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. ЗЛМК (Мал.) | ## | 3:1 | 7:2 | 8:3 | 9 |
| 2. Юнацтва-83 (Мал.) | 1:3 | ## | 6:3 | 9:4 | 6 |
| 3. Валожын | 2:7 | 3:6 | ## | 5:4 | 3 |
| 4. Стоўбцы | 3:8 | 4:9 | 4:5 | ## | 0 |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. РАМАС (Бераз.) | ## | 9:4 | 9:3 | 11:9 | 9 |
| 2. Белыя Росы | 4:9 | ## | 4:2 | 8:4 | 6 |
| 3. Заслаўе | 3:9 | 2:4 | ## | 7:1 | 3 |
| 4. Мядзел | 9:11 | 4:8 | 1:7 | ## | 0 |

Матч за 7 месца: Мядзел – Стоўбцы 7:4.

Матч за 5 месца: Валожын – Заслаўе 5:3.

У фінальную пульку выйшлі па двое лепшых з улікам матча паміж сабою.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. ЗЛМК | ## | 3:2 | 8:2 | 3:1 | 9 |
| 2. РАМАС | 2:3 | ## | 9:4 | 10:0 | 6 |
| 3. Белыя Росы | 2:8 | 4:9 | ## | 5:3 | 3 |
| 4. Юнацтва-83 | 1:3 | 0:10 | 3:5 | ## | 0 |

На фінальны турнір Кубка вобласці ў Маладзечне 4-6 лютага трапілі, такім чынам, маладзечанцы і беразінцы. Асаблівай канкурэнцыі ім ніхто скласці не здолеў, а матч паміж сабою старых сяброў-сапернікаў хаця і завяршыўся з мінімальным лікам, але быў не надта прынцыповы – высвятленне адносінаў адкладзена на тыдзень.

У складах каманд можна адзначыць **Ігара Шыяна, Мікалая Татуна, Мікалая Абрамовіча** (усе – ЗЛМК), **Андрэя Лявончыка, Генадзя Лужынскага** (усе – РАМАС), **Сяргея Дразда, Алега Бобіка, Аляксандра Фірсанава** (усе – Юнацтва-83).

*Сяргей ГАЙКОВІЧ.*



 

*Хай жа ўсе, усе, хто можа,*
*Возьмуць свой кіёк дарожны,*
*У край айчынны час ісці нам*
*Вывучаць свой люд.*

*Ф. Багушэвіч.*

# КУФЭРАК № 14

Культурна–гістарычная ўкладка да "Рэгіянальнай газеты"

## ПАМЯЦЬ

**Міхась Забэйда-Суміцкі (1900 – 1981). Выдатны беларускі спявак. Скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Яго іменем названая вуліца ў Маладзечне.**



Міхась Іванавіч Забэйда-Суміцкі. Прага, 1965 г.

*Прага, 23.06.74*

*Паважаная і дарагая Марыя Іосіфаўна*!*

*Атрымаў Ваша пісьмо ад 11-6 г/г Адчуваю Ваша гора, звязанае з адыходам у вечнасць s. р. Янкі Шутовіча. Хацелася б найцсі добрыя, гаючыя словы, каб гора Ваша зменшылася, сцішылася, але, мусіць, такія словы і не існуюць.*

*Памятаю, як я даведаўся аб смерці свае дарагое матулі, апошняга мне самага блізкага і найдаражэйшага чалавека. Можаце сабе ўявіць, як мне было цяжка, як балела душа. А ў гэты ж дзень я меў спяваць у Пражскім радыё нашы песні. Хацеў адказацца, ды падумаў, што маці, напэўна, сказала б, каб не адмаўляўся. І я спяваў, прысвячаючы песні яе светлай памяці. Потым мне сказалі, што яшчэ ніколі сваім спевам не кранаў так за сэрца, як гэтым разам...*

*Вось як у жыцці бывае. Душа плача, а чалавек спявае.*

*Першы канцэрт, які я прысвяціў сваёй маці, быў улетку ў 1935 годзе ў Ружанах, калі я з Італіі вярнуўся на Радзіму, пасля 15-гадовай разлукі з маткаю.*

*Мая маці шмат у жыцці плакала ад гора. Але гэтым разам плакала ад шчасця...*

*Калі я сказаў слухачам, што калыханку, якую калісьці спявала мне мая маці, цяпер заспяваю я і прысвячаю яе сваёй маці, якая першы раз мяне слухае як артыста і знаходзіцца між вамі, – усе захацелі яе бачыць. Маці, ўжо старэнькая і маленькая, мусіла выйсці да мяне на сцэну. Усе ёй апладзіравалі, а яна плакала ад шчасця...*

*Канцэрты ў Косаве былі ў 1936 годзе і пазней. Спяваў там некалькі разоў.*

*Прайшло амаль 40 гадоў ад таго часу, а прыгожыя хвіліны ўсё ўспамінаюцца і здаюцца нават лепшымі, чым былі, бо ўсе цяжкасці і перашкоды ўжо забыліся, хоць іх было, як ведаеце, шмат. Ды ці бывае жыццё без перашкод, без цяжкасцей? І пакуль ёсць сілы іх пераадольваць, усё добра. Горш, калі гэтых сіл ужо мала, не хапае, а ўсё хочацца быць карысным для грамадства. Тады агортвае чалавека вялікі сум. Здаецца, што ў жыцці нічога не ўдалося зрабіць, што пражыў пустацветам. І баліць і сэрца, і душа. Але пра гэта пісаць не варта. Кожны мае даволі і сваіх турбот, і свайго суму...*

*Шлю сардэчныя прывітанні ўсім, хто яшчэ памятае мае-нашы песні, пашырэнню якіх я прысвяціў амаль усё жыццё.*

*Не забывайце! Ваш М. Забэйда.*

** Ліст М. Забэйды-Суміцкага да сястры Янкі Шутовіча.*

## ТРАДЫЦЫЯ

# *Крыж з ружовага валуна*

Паўднёвы захад Маладзечанскага раёна. Старажытныя мястэчкі – Аборак, Палачаны, Лебедзева, Хоўхлава.

Каталіцкая вера прыйшла ў гэтыя мясціны ўжо напачатку XV стагоддзя. У 1437 годзе быў заснаваны касцёл у Хоўхлаве, у 1443 – касцёлы ў Аборку і Гарадзілаве, у 1475 – у Груздаве, у 1476 – ў Лебедзеве, трошкі пазней – у Хажове. З часам з'явіліся і кляштары: бернардзінцаў у Беніцы – у 1701 г., трынітарыяў у Маладзечне – у 1762 г.; пры філіяльным касцёле ў Палачанах зрабілі сваю рэзідэнцыю дамініканцы.

Яшчэ нядаўна ніводная з названых святыняў не дзейнічала. У храме найстарэйшай з парафій – касцёле Дзевы Марыі ў Хоўхлаве – знаходзіўся склад калгаснай тэхнікі. Касцёлы ў Аборку, Груздаве і Беніцы, хоць і былі абвешчаныя помнікамі архітэктуры, ператварыліся ў руіны. Касцёлы ў Гарадзілаве, Лебедзеве, Хажове, Маладзечне ўвогуле зніклі з твару зямлі.

Адзінай дзеючай святыняй у хрысціян заставаўся старажытны каменны крыж, устаноўлены за паўтара кіламетра на поўнач ад вёскі Палачаны, справа ад дарогі на Лебедзева, амаль пасярод дарогі ад развілкі на Яхімоўшчыну да вёскі Кабылкі (цяпер Зоранька). Здаўна гэты крыж шанаваўся ў мясцовага насельніцтва як цудадзейны, і, як напісана ў архіўных матэрыялах, "не было ў наваколлі чалавека, які б прайшоў міма крыжа, не ўкленчыўшы каля яго ці не паклаўшы ахвяраванне". Рабілі гэтак і каталікі і праваслаўныя.

Крыж, высечаны з валуна ружовага колеру, мае вышыню каля 1,2 метра. На плоскасці верхняга прамяня выбітыя літары: уверсе "Р", а пад ёю "S"; на папярочнай перакладзіне, амаль метровай, і ніжэй – неразборлівыя надпісы. У старчаку верхняга прамяня – заглыбленне, якое, відаць, засталося ад металічнага крыжыка.

Крыж не заўсёды знаходзіўся на гэтым месцы. Яго перанеслі сюды ў 1870-я гады з урочышча Калінаў Роў, дзе ён стаяў у атачэнні двух дубоў (падобна, што ў старажытнасці тут было язычніцкае капішча, і крыж з'явіўся пасля хрысціянізацыі краю; магчыма, нават быў высечаны з паганскага божышча). Сёння можна толькі здагадвацца пра тое, чаму святыню перанеслі ў новае месца, куды не перапыняецца паломніцтва. Нягледзячы на відавочную "лацінnасць" надпісаў на крыжы, яго шануе і праваслаўнае насельніцтва. Асабліва шмат людзей прыходзіць сюды ў дзень святога Пятра. Яны прыносяць да крыжа яйкі, мёд, яблыкі, грошы, палатно (потым гэтыя ахвяры падбіраюць убогія і жабракі) і моляцца.

І вось ужо адроджаная старажытная парафія ў саміх Палачанах і адбудаваная праваслаўная царква; рэстаўраваная капліца на каталіцкіх могілках у Лебедзеве; зноў адчыніла свае дзверы аднаўленая царква ў Беніцы, дзе рэстаўруецца і старажытны бернардзінскі касцёл; адрэстаўраваны цудоўны барочны касцёл у Хоўхлаве; пабудаваны новы велічны касцёл у Маладзечне.

А крыж з ружовага валуна па-ранейшым стаіць на развілцы дарог. Па-ранейшым каля яго ляжаць яблыкі, цукеркі – сведкі людскіх малітваў. Па-ранейшым ён упрыгожаны і каталіцкімі комжамі, і вышыванымі праваслаўнымі ручнікамі.

*Аляксей ЯРОМЕНКА.*



Камень–валун, які знаходзіцца недалёка ад Палачан.

## ГІСТОРЫЯ НАШАГА РЭГІЁНА

# Аб заснавальніку Смаргонскай Мядзведжай Акадэміі

(па матэрыялах польскага навукова-педагагічнага часопіса "Rota" № 1(29) 1998г.)



Магнаты Вялікага Княства Літоўскага.

Смаргонь 200 гадоў назатаму была вядомая сучаснікам як горад "акадэмічны". Сёння аб гэтай яе былой славе ўспамінаюць толькі нешматлікія энцыклапедыі, якія паведамляюць, што ў сярэдзіне XVIII стагоддзя на беразе ракі Віліі недалёка ад Смаргоні па волі нясвіжскага ардыната Караля Радзівіла – "Пане Каханку" – праводзілася дрэсіроўка бурых мядзведзяў, якімі былі надзвычай багатыя смаргонскія лясы. Упамінаецца таксама, што частка бурых выхаванцаў даходзіла са сваімі дрэсіроўшчыкамі-цыганамі аж да Венгрыі і Прусіі ў пошуках добрага заробку, а большасць дрэсіраваных мядзведзяў усё ж адпраўлялася ў Нясвіж для патрэб радзівілаўскага двара. Іншыя крыніцы падаюць і такія падрабязнасці, як дрэсіроўка мядзведзяў агнём у глыбокіх ямах пад барабанны бой, але невядома, адкуль гэтыя падрабязнасці вядомыя аўтарам артыкулаў. Пры гэтым нават не сустракаецца спроба неяк растлумачыць прычыну ўзнікнення гэтай "Мядзведжай акадэміі" і звязаць яе з індывідуальнымі рысамі яе заснавальніка, і ў выніку "Мядзведжая акадэмія" успрымаецца чытачамі як нейкая сур'ёзная навучальная ўстанова, звязаная з усім родам Радзівілаў, неадрыўная ад яго, як, напрыклад, мецэнацкая або дабрачынная дзейнасць.

На Смаргоншчыне, праўда, ведаюць, што Смаргонь стала ўласнасцю Радзівілаў яшчэ ў 1628г., калі адзіная спадкаемка тагачаснага ўладання Смаргоні Мікалая Багуслава Дэспата-Зяновіча – Ганна-Соф'я Зяновіч – выйшла замуж за Альбрэхта Уладзіслава Радзівіла і прынесла яму разам з іншымі ўладаннямі Смаргонь у пасагу.

Наступнымі нясвіжскімі арандатарамі былі буйныя дзеячы Вялікага княства Літоўскага Зыгмунт Караль, Аляксандр Людовік, Міхал Казімір, Юрый Юзаф, Караль Станіслаў, і, нарэшце, Міхал Казімір Радзівіл па мянушцы "Рыбанька" (1702-1762). Займаючы на працягу свайго жыцця пасады біскупа віленскага, ваяводы віленскага і гетмана літоўскага, ён належаў да найбольш уплывовых і адукаваных людзей свайго часу, меў шматлікія мастацкія і калекцыянерскія зацікаўленасці. У Нясвіжы ён адкрыў уласную друкарню, якая выдавала рэлігійную і свецкую літаратуру. Таму да сённяшняга часу здаецца дзіўным, што яго сын Караль Станіслаў па мянушцы "Пане Каханку" (1734-1790) нічым не быў падобны да свайго бацькі і напачатку свайго жыцця прынёс бацьку нават шмат клопатаў. Сярод сучаснікаў ён праслыў найвялікшым арыгіналам і такім застаўся і ў памяці нашчадкаў. Гэта па яго прыхамаці і ўзнікла Смаргонская Мядзведжая акадэмія.

З самага ранняга дзяцінства Караль Станіслаў праяўляў вялікую парывістасць і свавольства характару, прыхільнасць да паляўнічых і вайсковых забаваў. Гэта вельмі перашкаджала яго настаўнікам-манахам прышчапіць яму хаця б асновы ўмення чытаць і пісаць. Нарэшце наняты бацькам звычайны шляхціц па прозвішчы Пішчала адолеў гэтую задачу. Ён прапанаваў свайму вучню замест адказу страляць кулямі ў літары, напісаныя на дошцы, а затым гэткім жа спосабам складаць словы і сказы. Для юнага вучня гэта здалося не менш цікавым, чым фехтаваць, садзіцца на каня з завязанымі вачыма ці страляць са стрэльбы па яйках, падкінутых у паветра, што было дасюль яго штодзённай забавай. Такім чынам, як расказваюць, ён асвоіў навуку чытання, а яго настаўнік атрымаў два фальваркі.

Пра асобу "Пане Каханку" і яго дзейнасць існавала шмат розных меркаванняў. Адныя прызнавалі хуткасць яго розуму, сумленнасць, гарачую любоў да Радзімы, а іншыя ўвогуле адмаўлялі яму ў існаванні якіх-небудзь рысаў. Але, здаецца, не падлягае сумненню, што ён шчыра жадаў дабра сваёй Радзіме, бо ў час першага падзелу Рэчы Паспалітай далучыўся да Барскай канфедэрацыі, якая выступіла супраць падзелу, і заплаціў за гэта вымушанай эміграцыяй.

Хаця ён валодаў землямі ў розных канцах Рэчы Паспалітай, але бываў там нячаста. А моцна прывязаны быў толькі да роднай Літвы, усур'ёз сцвярджаючы, што паляванне на Літве лепшае, а ў кароне для палякаў "нават суслікі – вялікая здабыча". Вышэй прыдворных цырымоній ставіў гульні з мядзведзямі, гадуючы іх у вялікай колькасці і страшачы імі "пудраваных гасцей" з Варшавы. Вядомы быў выпадак, калі пасланнік італьянскага караля самлеў са страху, калі ў час абеду ўбачыў кудлатага мядзведзя, які змяняў яму талеркі.

"Слынная мядзведжая акадэмія ў Смаргоні дастаўляла князю мноства такіх выхаванцаў", – пісаў у 1932 г. польскі часопіс "Teczka". "Цыганы цудоўна дрэсіравалі іх для задавальнення можнага пратэктара, які пры дапамозе гэтых звяроў не вагаўся рабіць сюрпрызы нават асобам вышэйстаячым". Напрыклад, аднойчы ў дзень, на які было прызначана каралём слуханне пэўных спрэчных справаў Радзівілаў з іншымі магнатамі, увесь каралеўскі двор раптам быў устрывожаны нябывалым гармідарам на замкавым дзядзінцы. Коні, запрэжаныя ў экіпажы, станавіліся на дыбы, з перапуду ламалі дышлы, рваліся, храплі. Перапалоханыя слугі бегалі туды і сюды, дарэмна намагаючыся спыніць непарадак. Як жа быў здзіўлены і абураны кароль, калі паж далажыў яму аб прыбыцці пана ваяводы віленскага Караля Радзівіла ў карэце, запрэжанай чатырма страшэннымі мядзведзямі!

Яму шмат прабачалі, даравалі, бо ён шмат меў. 5000 вёсак, 1290 гарадоў і мястэчак, 300 тысяч душ і 40 мільёнаў гадавога даходу гарантавалі яму велізарную перавагу над сваім каралём. Ён называўся князем на Алыцы, Нясвіжы, Біржах, Дубінах, Слуцку, Капылі, Чартарыйску і Клецку; графам на Заблудаве, Кейданах, Белым Камені і Белай, уладальнікам Жулквi, Злогава, Памаран, Невеля, Себежа на Украіне і г. д.

У 1785г. ён прымаў у сябе ў Нясвіжы апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага з такой бяспрыкладнай пышнасцю, што кароль, які амаль заўсёды меў грашовыя клопаты, павінен, напэўна, быў адчуваць сябе прыніжаным. Яму было прапанавана знаёмства з войскам "Пане Каханку", яго скарбніцай, галерэяй партрэтаў і архівам. У адзін з дзён высокі госць павінен быў прыняць удзел у гульні, якая называлася "Асада Гібралтара" (крэпасць Гіблартар была пабудаваная з дошак і палатна сярод каналаў пры альбанскім ставе, і атакаваў яе марскі флот Радзівіла). У праграме ўрачыстасцяў былі таксама балі, абеды, канцэрты, ваенныя вучэнні і парады, і, вядома ж, паляванні. Ужо на першым паляванні ад рукі караля пала нібыта 20 ваўкоў, а ў адзін з дзён для яго было наладжана і паляванне на мядзведзяў. Дашчэнту стомлены кароль з палёгкай пакідаў залішне гасцінныя нясвіжскія парогі.

Яшчэ адной рысай Караля Станіслава Радзівіла было тое, што ён не любіў іншаземцаў і, будучы ворагам пудраваных парыкоў і чужаземнай мовы, нават самога караля не баяўся папракнуць "куцым фрачкам". Сам жа апранаўся ў жупан і кунтуш (род халата з фальшывымі рукавамі), з абавязковай шабляй на баку, і кожнага шляхціца, апранутага інакш, ён адсылаў назад, дадому.

Зразумела, што са смерцю Караля Станіслава Радзівіла перастала існаваць і смаргонская "Мядзведжая акадэмія", якой ён прысвячаў шмат увагі і сродкаў.

Вось такі быў заснавальнік смаргонскай мядзведжай акадэміі.

*Таццяна КЛЯШЧОНАК.*

ДЭБЮТ

*Надзея Хоціна нарадзілася ў 1982 годзе на Мядзельшчыне. Вучыцца ў Маладзечанскім музычным вучылішчы. У вершах, па-дзявочаму шчырых, апявае прыгажосць роднай прыроды, першае юначае каханне, любоў да роднай Беларусі. І таму хочацца пажадаць усяго найлепшага маладой таленавітай паэтцы на цяжкай паэтычнай дарозе.*



Надзея Хоціна.

## Восеньская песня

Апошняя восень ў акно зазірне
І стогнам бязвольнай лістоты,
Адвечную песню спяваючы мне,
Усцеліць мой шлях пазалотай.

І толькі тады я паверу табе,
Халоднае шэрае неба,
Што восень нам трэба шукаць у сабе,
Калі цеплыня не патрэбна.

А раптам марозы? І як зберагчы
Трапечучай песні дыханне?
І цяжар няздзейсненых мар на плячы
На золкім журботным світанні...

Сляпыя дажджы на бяскрайняй зямлі...
Краіна ў слязах і туманах.
Пажухлае лісце, пустыя палі
Нагадваюць сэрцу аб ранах.

Але залатую пару не зменяць
На летні падманны спакой,
І шэрань дажджоў мне з надзеяй чакаць –
Я восені веру сваёй.

...Апошняя восень ў акно зазірне –
Абудзіць марозным світаннем,
Адзіную тэму спяваючы мне
Трапечучай песні дыханнем...

*Лістапад, 1999*

* * *

Восень зноў мяне асудзіць.
І на вуснах ціхае пытанне:
Што было, што ёсць, што будзе?
Што далей? – ў адказ – маўчанне...

Кожны дзень з надзеі пачынаю,
Бо ў ружовых колерах світанне.
Колькі дзён яшчэ? – я пачакаю –
Месяц, два? – ў адказ маўчанне...

Дні бягуць так хутка і... павольна.
Невыносным робіцца растанне.
Сэрца так баліць, ды мне не больна...
Дзе ты, мілы? – а ў адказ – маўчанне...

Першы снег. Кастрычнік – і марозы.
Можа холадна твайму каханню?
І бягуць па шчоках восеньскія слёзы.
Яшчэ помніш? – а ў адказ маўчанне...

...Восень зноў чакаць мяне асудзіць
І на вуснах ціхае пытанне:
Калі блізкія чужымі стануць людзі,
Што далей? – ў адказ – маўчанне...

*Кастрычнік, 1998.*

СУМНЫЯ ЎГОДКІ

# Пад сузор'ем Тамаша Зана

**(Заканчэнне. Пачатак у №№ 11-12)**

У красавіку 1926 года гімназію наведаў акруговы школьны інспектар, які застаўся задаволены ўзроўнем адукацыі. У гэтым жа годзе ў гімназіі створаны літаратурна-навуковы гурток, а крыху пазней – гістарычны і краязнаўчы. Кіраўніком быў **Антоні Анцэвіч**. Адчынілася гімназійная бібліятэка і пазычковая дапаможная каса для набыцця падручнікаў і школьных прылад.

У снежні 1926 года гімназія арганізавала ўрачыстае святкаванне 900-годдзя каранацыі Баляслава Харобрага. Адбылося набажэнства, вялікі ўрачысты канцэрт, тэатральная пастаноўка. Дарэчы тут сказаць, што, нягледзячы на цяжкасці, дзяржава дбала пра свае інтарэсы, пра сваю культуру і сваю школу. Асаблівы ўклад у святкаванне ўнесла гарцэрская дружына, якая мела назву "Львоўскія арлянята". На свяце прысутнічаў Віленскі ваявода Уладзіслаў Рачкевіч.

Навучальны 1928 – 29 год быў па-свойму знамянальны: адчыніўся 8 клас, і гімназія набыла права навучальнай установы поўнага гуманітарнага тыпу. З гэтага часу ні адзін вучань не вызваляўся ад аплаты. У тым годзе гімназію скончыла 152 вучні, з іх – 91 хлопец і 61 дзяўчынка. Для належнага знешняга выгляду гімназіі было выдаткавана 10 тысяч злотых – сума, па тым часе, астранамічная.

З 30-х гадоў гімназія займала два паверхі былога кляштара, дзе займаліся чатыры гімназійныя класы і два класы ліцэя.

Прыкладна ў 1937 годзе ў сценах гімназіі навучалася 200 чалавек, а ў ліцэі – 50. Дырэктарам быў **Люро**. Сярод найбольш паважаных настаўнікаў вылучаліся **Анцулевіч** (прыродазнаўства), **Кавалюк** (геаграфія і фізкультура), **Бачэўская** (французская мова), **Плякова** (лаціна), **Я. Бароўскі** (паланістыка), **кс. Чаплінскі** (нямецкая мова і каталіцкая рэлігія), **бацюшка Марозаў** (праваслаўная рэлігія).

За вучобу ў гімназіі ў 30-я гады трэба было плаціць 200 злотых штогадова (на гэтыя грошы можна было купіць 100 пудоў жыта).

Асобнай размовы заслугоўвае форма гімназістаў. Яна была блакітнага колеру з акантоўкай, на шапцы – эмблема з разгорнутай кнігай і паходняй. На рукаве таксама эмблема з нумарам "926". Нешта падобнае насілі і ліцэісты 30-х гадоў.

У канцы верасня 1939 года пасаду дырэктара заняў палымяны беларускі патрыёт **Янка Карпіновіч** (выкладаў беларускую мову і літаратуру). Але, на вялікі жаль, як беларуская навучальная ўстанова, гімназія прабыла нядоўга.

У канцы кастрычніка 1939 года яе ліквідавалі. На тым месцы было адчынена педагагічнае вучылішча імя Янкі Купалы, якое праіснавала да чэрвеня 1941 года.



**Мемарыяльная дошка, прысвечаная былым выкладчыкам і вучням гімназіі імя Т. Зана. Устаноўленая ў 1989 годзе ў адным з касцёлаў Варшавы.**

Нягледзячы на шалёную паланізацыю, гвалтоўную каталізацыю і асіміляцыю, знайшліся людзі і ў сценах гэтай навучальнай установы, якія не выракліся свайго нацыянальнага "я", сваёй мовы і культуры, якія праз усё жыццё пранеслі любоў да сваёй занядбанай Бацькаўшчыны, да веры сваіх продкаў. Сярод такіх людзей былі: сын выдатнага дзеяча беларускага Адраджэння Браніслава Тарашкевіча **Радаслаў Тарашкевіч**, просты і сціплы настаўнік вясковай школы **Віктар Казлоўскі**, дзеячы беларускага замежжа **Павел Асіповіч, Мікола Ганько і Пётр Ганэцкі**, актыўны прапагандыст роднай мовы і гісторыі Беларусі **Лявон Шыман**.

*Янка БАБЁР.*

СПАДЧЫНА

# Мемуарная літаратура і краязнаўства

**(Працяг. Пачатак у № 13)**

Надыдзе час, калі атрымае ў навуцы правы "грамадзянства" фальклорнае краязнаўства. На вялікі жаль, сёння яно яшчэ не прызнанае, хоць першыя спробы ўжо робяцца. Першым жа ў гэтым шэрагу даследчыкаў будзе стаяць імя Саламона Рысінскага /1570-1625/, які якраз і даследаваў фальклор аднаго рэгіёна Даляцічаў, а магчыма, яшчэ і Любчы. Сам жа краязнавец нарадзіўся ў Рысіне, пад Полацкам. Працаваў настаўнікам у Даляцічах і Любчы, дзе і зацікавіўся вуснай народнай творчасцю. Яго найбольшым заняткам сталі запісы прыказак і прымавак. Гэтыя кароценькія па памерах, але часам вельмі ёмкія па змесце, трапныя сваёй вобразнасцю творы зачаравалі не толькі самога краязнаўца-фальклярыста, але і Пятра Бласта Кміту, які іх і выдаў у Любчы. Прыказкі і прымаўкі мясцовага паходжання гучаць вельмі дакладна. Праз іх, у пэўнай меры, характарызуецца стан беларускай мовы. На жаль, лацінская мова не дазволіла перадаць стваральніку зборніка фальклору ўвесь каларыт народнай мудрасці, тым больш, жывога слова. Усё ж змест перададзены: "Даўшы рукамі, бегалі нагамі", "Баба з воза, калёсам лягчэй", "Адзін за васемнаццаць, другі за дваццаць без двух" і шмат іншых. А вось прыказка "Хто даў, дык даў, а Гаштольд узяў" мае мясцовыя вытокі. Таямніца раскрываецца проста, калі напомніць, што Альбрэхт Гаштольд быў уладальнікам Любчы ў 1528 г. З'яўляўся амаль сучаснікам С. Рысінскага. Ва ўсякім разе жорсткасць і хабарніцтва гэтага наваградскага ваяводы далося людзям у знакі, што і адбілася ў фальклоры.

Заўзятым папулярызатарам спадчыны С. Рысінскага быў вядомы беларускі паэт XIX ст. В. Каратынскі. Апошні сцвярджаў, што большая частка змешчаных у яго працах прыказак і прымавак да гэтага часу жыве ў вуснах наднёманскага люду, у беларускай мове. Абапіраючыся на лісты 1620 г. з Вільні ў Нясвіж ад Б. Красневіча да К. Радзівіла, Каратынскі робіць вывад, што Саламон Рысінскі цудоўна арыентаваўся ў гісторыі. "Калі б хоць якія-небудзь захаваныя кавалачкі ўдалося знайсці, было б гэта для аматараў гістарычных помнікаў сапраўднай радасцю". Кніга "Сармацкіх прымавак" С. Рысінскага якраз і засведчыла, што аўтар яе ведаў духоўную культуру краю.

Быў бы няпоўны творчы партрэт С. Рысінскага, калі б не ўпомніў бы пра яго вывучэнне мясцовых геаграфічных назваў, у якіх ён бачыў ключ да адгадкі таямніц старажытнай гісторыі. Словам, тут таксама краязнавец быў пачынальнікам, на гэты раз, у галіне тапанімікі, істотнай частцы краязнаўства.

У аналагах беларускага краязнаўства на яго раннім этапе пакуль што не заняў свайго месца Міхаілон Літвін. Гэтае імя кожны раз выпадала з поля зроку як малапрыкметнае. Між тым, ён быў сярод першых аўтараў, хто пісаў у XVII ст. пра этнічную групу татараў, якія аселі на Беларусі. Яго праца тут можа быць карысная, як найбольш ранняя, што дае малюнак жыцця гэтай дыяспары. Іх праца, быт, абрады, вераванні, гаспадарчыя заняткі і іншае мелі сваю самабытнасць, але пад уплывам новых абставін татары шмат бралі ад беларусаў, як і самі яны шмат далі гэтай зямлі. Гэтае апісанне мае перш за ўсё этнаграфічны кірунак. Разам з тым, Міхаілон Літвін выказаў думку пра разнастайнасць абрадаў беларусаў, бачыў у іх глыбокія карані мясцовай традыцыі. Гісторык, літаратар і філосаф Альберт Каяловы /1609-1677/ вывучаў філасофію ў Нясвіжы, а тады і тэалогію ў Вільні. Потым працаваў педагогам у Смаленску, Браневе, Вільні, Брэсце і іншых гарадах. Ён шмат вандраваў па Беларусі, збіраў матэрыялы для сваіх даследаванняў па геральдыцы /магчыма, пад уплывам нясвіжскіх калекцый, якія ён мог бачыць у Радзівілаў – Г. К./. Яму самому належала вялікая калекцыя гербаў Вялікага княства Літоўскага. Сваё разуменне сутнасці гэтай дзяржавы ён выклаў у двухтомнай "Гісторыі Літвы" на лацінскай мове. Дарэчы, ён крытычна аднёсся да вядомай "хронікі" М. Стрыйкоўскага, хоць і выкарыстоўваў у сваёй працы. Пра некаторыя мясціны края, пра некаторых яго выдатных людзей расказаў у сваёй працы "Сумесі рэчаў". Не выключана, што ў асобе А. Каяловага мы маем найбольш аб'ектыўнага гісторыка Беларусі XVII ст. Толькі недаступнасць яго прац перашкаджае іх шырока ўводзіць у навуковы ўжытак.

Вялікае княства Беларуска-Літоўскае, у склад якога ўваходзілі як Беларусь, так і Жмудзь, у другой палове XVII-XVIII стст., заставалася часткай Рэчы Паспалітай. Нягледзячы на асобнае адміністрацыйнае кіраванне, фінансаванне, мытню /да 1766 г./, а таксама войска, суды і іншае, усё ж Рэч Паспалітая моцна ўплывала на духоўнае жыццё беларускага народа, праводзячы ўзмоцненую паланізацыю. Польскае слова ўваходзіла ва ўсе сферы жыцця. Эканамічны ж стан Беларусі аказаўся ў стане заняпаду, які выклікала феадальная анархія, калі з 1652 па 1769 г. з 80 сеймаў 44 было сарвана, яны не прынялі ніякіх рашэнняў. Так што Рэч Паспалітая заставалася без устойлівай цэнтральнай улады. Слабасць яе і палітычны ўпадак былі відавочныя. Гэта вымушала, напрыклад, Радзівілаў трымаць свае войска, каб абараніць свае ўладанні ў выпадку ваеннай пагрозы. Магнаты вялі вайну за ўласнае верхавенства ў дзяржаўнай іерархіі, а гэта прывяло да таго, што ў 20-60-х гадах XVIII ст. пачаліся бясконцыя інтрыгі паміж Радзівіламі, Патоцкімі, Чартарыйскімі і іншымі групоўкамі. Нават прыход у 1764 г. да ўлады прадстаўніка Чартарыйскіх – Станіслава Аўгуста Панятоўскага не зменшыў у краіне напружання. Не дапамаглі і рэформы апошняга польскага караля.

Беларусь была полем бітвы ў 1648-1651 гг. феадалаў Рэчы Паспалітай з казакамі пад кіраўніцтвам Нябабы, Крывашапкі, Гаркушы, Мікульцкага, руска-польскай вайны 1654-1667 гг., ды і шведска-польскай 1655-1656 гг., Паўночнай вайны 1700-1721 гг. Памяталі тут і разбуральную руска-польскую вайну 1632-1634 гг. Усе яны неслі страты не толькі ў гаспадарцы народа, але і ў культуры: нішчыліся або вывозіліся бібліятэкі, музейныя калекцыі, архівы, творы мастацтва.

Агульная афарбоўка палітычнай сітуацыі ў Рэчы Паспалітай уплывала і на творчае, культурнае жыццё і Беларусі. Не знайшло тады шырокага розгаласу і краязнаўства, якое аказалася пад моцным уплывам самых розных кансерватыўных сіл. Не толькі беларуская літаратура, мастацтва, але і краязнаўства трапілі ў паласу зацяжнога крызісу. Заняпад адчуваўся і ў музейнай справе. Было б лагічным чакаць у другой палове XVII- пач. XVIII стст. з'яўлення мноства новых музеяў, калі б быў працяг традыцыі Рэнесансу і Рэфармацыі, але такога не здарылася. Усё пайшло іншым шляхам развіцця, на значна ніжэйшым узроўні. Гэта прыкметна адбілася і на дзейнасці тады яшчэ кволай інтэлігенцыі Беларусі.

Не толькі буйныя феадалы, але і дробная шляхта Беларусі ў імкненні за прывілеямі масава пераходзілі ў каталіцызм, а тых, хто яшчэ заставаўся ў праваслаўі, прыціскалі ўсімі метадамі. Нават і ўніяты аказаліся пад гэтым прэсам націску пераходу ў пануючую рэлігію Рэчы Паспалітай. Адпаведна выпускаліся і кнігі пэўнага кірунку, ды і самі друкарні працавалі толькі тыя, ці амаль толькі тыя, што працавалі на польска-каталіцкую ідэалогію. У навучальных установах усё было прасякнута схаластыкай і містыкай.

Усё ж і ў гэты неспрыяльны для духоўнага жыцця час на Беларусі жылі і працавалі такія дзеячы культуры, як Сімяон Полацкі /1629-1680/, Казімір Лышчынскі /1634-1689/, Андрэй /Ян/ Белабоцкі /другая палавіна XVII ст./, Ілля Капіевіч /каля 1656-1714/.

Для Сімяона Полацкага, як сцвярджае І. П. Ярэмін, яго рукапісныя зборнікі "Вяртоград мноцветный", "Рифмологион" – гэта своеасаблівыя "літаратурныя музеі", "кунсткамеры", поўня "рарытэтаў" і "кур'ёзаў". Зразумела, тут ацэнка літаратурнай вартасці твораў славутага палачаніна, але ж нельга яму адмовіць у рэалістычнасці, у звароце да канкрэтнага "прадмета" жыцця.

У кнізе "Ключ да сардэчных скарбаў" /Слуцк, 1723, літаратар А. Кярсніцкі /1678-1733/ побач з апісаннем "боскай наканаванасці" ёсць



звесткі з гісторыі Беларусі. Некаторыя моманты краязнаўства можна сустрэць у калянгарах Я. Пашакоўскага /1684-1757/. Амаль кожны з літаратараў даваў свае ацэнкі некаторым падзеям у краі, пра якія яны пісалі /С. Шэмет, А. Babaкомскі, М. Кулігоўскі, З. Моршттын, Я. Жабчыц, Д. Рудніцкі і інш./.

Крыніцай вывучэння краю служылі і служаць шматлікія дзённікі, апісанні падарожжаў, мемуары. Пакінулі сведчанні пра беларускія гарады, розныя мясціны не толькі мясцовыя аўтары, а і падарожнікі-аўтары з іншых краін свету. Для нас яны цікавыя тым, як яны глядзелі на этнаграфічную Беларусь, якой яна ім бачылася, што яны бачылі на шырокіх прасторах краю.

Вялікая работа па гэтай праблеме выканана В. П. Грыцкевічам і А. І. Мальдзісам, якія прывялі ў сістэму адпаведныя крыніцы і стварылі манаграфію "Шляхі вялі праз Беларусь". Пры гэтым аўтары вытрымалі храналагічны парадак, прывёўшы ў кнігах самыя істотныя фрагменты з прац XV-XIX стст. Не раз звяртаюць увагу на праблему разумення саміх назваў "Беларусь", "Літва" і многае іншае.

*Генадзь КАХАНОЎСКІ.*

